# Змест нумара





**Прывітанне, сябры!**

**Не ведаю, як вы, а я вельмі люблю вандраваць. У марах або наяве вандроўка – гэта заўжды незвычайныя адкрыцці, цудоўныя сустрэчы і цёплыя ўспаміны на ўсё жыццё.**

**У падарожжах мне найбольш падабаецца вывучаць розныя пабудовы і звязаныя з імі гісторыі. А самымі прыцягальнымі і загадкавымі пабудовамі з'яўляюцца замкі. Яны выклікаюць у нас асацыяцыі з мужнымі рыцарамі, грандыёзнымі балямі, таямнічымі прывідамі. На жаль, звычайна мы шукаем замкі па ўсім свеце, але толькі не ў Беларусі. Але гэта вялікая памылка! Па колькасці замкаў наша краіна не саступае іншым дзяржавам. Каб самім упэўніцца ў гэтым, запрашаю вас у захапляльнае падарожжа па беларускіх замках, крэпасцях і палацах. Спадзяюся, такая ўяўная вандроўка натхніць вас на сапраўднае падарожжа па нашай краіне замкаў.**

**А цяпер хутчэй наперад – неверагодныя адкрыцці ўжо чакаюць!**



Прывітанне!

Сёння мы пачнем гістарычную вандроўку па знакамітых мясцінах нашай краіны. Я абляцела родную Беларусь уздоўж і ўпоперак. Падчас пералётаў мяне найбольш уразілі беларускія замкі. Сёння я вырашыла распавесці вам і Васільку пра гэтае хараство.

Напэўна, кожны марыў апынуцца ў гасцях у князя, паблукаць па таямнічых залах, якія памятаюць шмат гераічных і трагічных падзей, даведацца пра замкі-прывіды, якіх ужо даўно няма і ўдыхнуць паветра даўніны...

Не будзем зацягваць – накіроўваемся ў падарожжа!











Ці паверыце, але наша радзіма – гэта край замкаў і палацаў! І хоць сёння старажытных муроў засталося няшмат, але раней амаль у кожным беларускім горадзе быў замак.

Абарончыя збудаванні ўзніклі даўно. Спярша гэта быў драўляны плот, які ахоўваў паселішча адляснога звяр'я. Пастулова людзі навучыліся будаваць высокія каменныя сцены – муры, дабудоўвалі вежы і брамы. Узнік замак – комплекс абарончых збудаванняў з жылымі хаткамі-пабудовамі ўнутры сцен.

Першыя замкі на Беларусі з'явіліся тысячу гадоў таму. Яны былі драўляныя, таму часта гарэлі і хутка разбураліся. Ні адзін з іх не захаваўся да нашых дзён, а даведацца пра існаванне такога замка мы можам толькі дзякуючы археалагічным раскопкам. У 13 стагоддзі на нашых землях з'явіліся мураваныя збудаванні – з цэглы і каменю. Тагачасныя замкі можна ўбачыць і цяпер у Крэве, Навагрудку, Лідзе, Горадні. Каменныя муры ратавалі нашых продкаў ад рыцараў-крыжакоў – там хаваліся жыхары ўсяго наваколля. Ворагі бралі замак у аблогу: акружалі і чакалі, калі абаронцы зморацца і здадуцца. Калі ж замак трымаўся доўга, праціўнікі здымалі аблогу і сыходзілі ні з чым.

Замкі будаваліся ў месцах, зручных для абароны: у нізінах (такі замак называўся дольным або ніжнім) і на пагорках (такі меў назву горнага або высокага).

**Заданне: Падумай, якім чынам нізіны і пагоркі дапамагалі абараняць замак?**

Калі выбіралі месца для будучага замка, прыглядаліся да рэльефу (зямной паверхні): ці ёсць побач непраходныя балоты або стромкія пагоркі, на якія ворагу цяжка будзе ўздымацца. Прыродныя перашкоды дапаўнялі штучнымі землянымі канструкцыямі: насыпалі валы (пагоркі), выкопвалі вакол замка роў і напаўнялі яго вадой.

Замкі моцна розніліся па памерах. Напрыклад, Лідскі замак мог схаваць за сваімі сценамі ўсё насельніцтва горада. Былі і зусім маленькія абарончыя пабудовы – вежы-данжоны.

Першыя замкі (напрыклад, у Крэве) былі рэзідэнцыямі кіраўніка дзяржавы – вялікага князя літоўскага – і належалі яму. Паступова заможныя рыцары пачалі будаваць свае, прыватныя замкі (напрыклад, у Міры і Нясвіжы). Прыватныя замкі нічым не саступалі дзяржаўным, гаспадары заўжды дбалі пра іх і своечасова рамантавалі. Менавіта прыватныя замкі найлепш захаваліся да нашага часу.



Ад большасці велічных збудаванняў не засталося і каменьчыка, некаторыя дайшлі да нас толькі ў руінах, а нешматлікія дагэтуль уражваюць сваёй моцай. Яны нагадваюць мужных волатаў даўніны, якія і праз стагоддзі стаяць на абароне сваёй Радзімы.

# Стужка часу

9

9–13 стагоддзі – з'яўленне драўляных умацаванняў у найзначнейшых гарадах Беларусі: Полацку, Віцебску, Тураве, Менску (цяпер Мінск), Наваградку (цяпер Навагрудак).



980 год – ноўгарадскі князь Уладзімір захоплівае Полацк, забівае полацкага князя Рагвалода і гвалтам бярэ за жонку ягоную дачку Рагнеду.

10

1105, 1116 гады – гераічная абарона Менска (цяпер Мінск) князем Глебам Усяславічам ад войска паўднёварускіх князёў. У 1119 годзе Менск быў захоплены, Глеб узяты ў палон.

11

12

1271–1288 – будаўніцтва Белай вежы ў Камянцы, якая захавалася да нашых дзён.

13

Апошняя чвэрць 13 стагоддзя – будаўніцтва "валынскіх вежаў" у Беларусі.

Першая траціна 14 стагоддзя – будаўніцтва на тэрыторыі Беларусі замкаў-кастэляў. Да нашага часу захаваўся кастэль у горадзе Ліда і руіны замку ў мястэчку Крэва.



З'яўленне каменнага замку ў сталіцы Вялікага Княства Літоўскага Вільні (цяпер Вільнюс).

1314 год – паспяховая абарона Наваградскага замка Давыдам Гарадзенскім перад крыжацкім войскам



1382 год – князь Кейстут забіты ў Крэўскім замку. Ягоны сын Вітаўт уцякае з турмы гэтага замку дзякуючы жонцы Ганне.

14 жніўня 1385 года – заключэнне уніі (саюзу) паміж Польшчай і Вялікім Княствам Літоўскім у Крэўскім замку.



Канец 14 – пачатак 15 стагоддзя – будаўніцтва Вітаўтам мураванага замку ў Горадні (цяпер Гродна). Пачатак будаўніцтва мураванага замка ў Навагрудку (цяпер Навагрудак).

14

15

Канец 15 – пачатак 16 стагоддзя – будаўніцтва палаца вялікіх князёў літоўскіх у Вільні (цяпер Вільнюс).



Другая палова 15 – першая палова 16 стагоддзя – узмацненне замкаў на ўсходніх межах дзяржавы. Будаўніцтва моцных мураваных замкаў у Віцебску, Оршы і іншых гарадах.

Пачатак 16 стагоддзя – будаўніцтва Юрыем Ільнічам першага прыватнага замку ў мястэчку Мір. Ён захаваўся да нашых дзён і ўваходзіць у Спіс сусветнай спадчыны ЮНЭСКА. Адначасова род Гаштольдаў будуе замак у Геранёнах. З'яўленне прыватнаўласніцкіх замкаў на беларускіх землях.

1512 год – захоп маскоўскімі войскамі Смаленска.

Першая палова 16 стагоддзя – будаўніцтва абарончых храмаў у Мураванцы і Сынкавічах, якія захаваліся да нашых дзён.

1563 год – захоп маскоўскімі войскамі Полацка пасля двухмесячнай аблогі.

1570 – 1580 гады – перабудова замка ў Гродна ў рэнесансавым стылі. Замак служыў адной з галоўных рэзідэнцый караля і вялікага князя Стэфана Батория. Захаваўся да нашых дзён.

1579 год – вызваленне Полацка Стэфанам Баторыем і вяртанне яго ў склад Вялікага Княства Літоўскага.



1580-я –1604 гады – будаўніцтва палаца ў Нясвіжы на замову Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі. Палац захаваўся да нашых дзён і ўваходзіць у Спіс сусветнай спадчыны ЮНЭСКА.

16

17

1632 – 1634 гады – гераічная двухгадовая абарона Смаленска ад маскоўскага войска.



1654 год – гераічная абарона Старога Быхава падчас вайны 1654 – 1667 гадоў.

17–18 стагоддзі – росквіт прыватнаўласніцкага палацавага будаўніцтва на беларускіх землях. Заняпад многіх дзяржаўных замкаў.

18

19

1833 год – пачатак будаўніцтва Брэсцкай крэпасці.

20



22 чэрвеня - 29 чэрвеня 1941 года – гераічная абарона Брэсцкай крэпасці ад нямецкай арміі ў пачатку Вялікай Айчыннай вайны.

21

**Гэтая стужка дапаможа табе не заблытацца ў вялікай колькасці падзей. На яе ты таксама зможаш нанесці ўсе тыя даты,якія сустрэнуцца табе ў часопісе.**

Ты ўжо ведаеш, што замак – гэта даволі буйное абарончае ўмацаванне, якое складаецца са шматлікіх элементаў. Як не заблытацца ў іх вялікай колькасці? Цікаўка дапаможа нам – яна падрыхтавала апісанне кожнай часткі замка на прыкладзе замка ў Міры. Вялікі і падрабязны малюнак дазволіць добра ўсё разгледзець і запомніць. А потым ты зможаш падзяліцца сваімі ведамі з сябрамі, калі вы паедзецце ў вандроўку па памятных мясцінах Беларусі.

**Заданне: Дапамажы Васільку злучыць назвы і азначэнні частак замка з малюнкамі.**

**Падказка:** *сачы за тым, каб супалі колеры кружкоў на схеме і каля апісання.*

**Гаспадарчыя пабудовы** маглі знаходзіцца паблізу ад замка або проста пад яго сценамі. Тут трымалі коней, вазы, сена і г.д. Каля Мірскага замка ў 17 стагоддзі быў нават малы агародзік, на якім вырошчвалі капусту, цыбулю, буракі і іншую гародніну.

**Бастыён** – спецыяльныя выступы ў валах, накшталт земляных вежаў, трохкутнай або пяцікутнай формы. На бастыёнах звычайна ставілі гарматы, каб абстрэльваць захопнікаў на далёкіх падыходах да замка.

**Пакоі гаспадара** першапачаткова, калі галоўнай функцыяй замка была абарона тэрыторыі краіны ад ворагаў, маглі размяшчацца на адным з паверхаў замкавых вежаў. З цягам часу гэтыя пакоі пераносяцца ў спецыяльна прызначаную для гэтага пабудову - замкавы палац.

**Байніца** – гэта маленькае акенца, праз якое абаронцы стралялі па ворагу. Байніцы рабілі ў вежах і ў сценах замка. Байніцы, якія выглядалі як акенцы, называліся закрытымі. Бывалі і адкрытыя байніцы – шчыліны між зубцамі замкавай сцяны.

**Вежа** – асобнае высокае збудаванне ў замку. Яна магла мець некалькі паверхаў і байніцы. У вежах маглі жыць тыя, хто служыў у замку, захоўваліся прыпасы і зброя. Калі нападалі ворагі і ім удавалася ўзлезці на замкавыя сцены, абаронцы замыкаліся ў вежах, кожная з якіх рабілася маленькім непрыступным замкам.

**Турма** абавязкова ўваходзіла ў склад замкавых пабудоў. Размяшчалася на першым паверсе або ў падвале. У ёй маглі затрымліваць ворагаў, якіх падчас абароны замка бралі ў палон.

**Роў** – гэта абарончае ўмацаванне ў выглядзе штучна ўтворанага канала. Патрэбен ён быў для таго, каб зрабіць замак больш непрыступным. Мог быць напоўненым вадою або заставацца сухім.

**Баявыя галерэі** – асноўныя элементы абарончага ўмацавання. Па іх абаронцам можна было бяспечна перамяшчацца ўздоўж сцен на вялікай вышыні і праз спецыяльныя акенцы-байніцы страляць па ворагу.

**Капліца** – малая царкаўка. Магла размяшчацца ў замкавай вежы, як, напрыклад, у Мірскім замку, або стаяць асобна, як у Лідскім.

**Мост** – гэта штучная канструкцыя, перакінутая праз дарогу, вадаём або іншую перашкоду для забеспячэння пераходу ці пераезду праз яе. Напрыклад, у Мірскім замку мост быў драўляны, знізу акуты жалезнымі шыпамі і паласамі. Калі набліжаўся вораг, мост падымалі і ён надзейна закрываў браму.

**Машыкуль** – гэта род байніц. З іх абстрэльвалі ворагаў, што стаялі ля сцен замка. Праз такія адтуліны на ворага маглі таксама кідаць камяні або выліваць кіпень і смалу.

**Барбакан** – умацаванне перад брамай з унутраным дваром і байніцамі, якое дапамагала лепшай абароне замка.

**Герса** – металічная альбо каваная жалезам дубовая пад'ёмная рашотка. Яна магла рэзка апускацца пры падыходзе ворага да сценаў замка і надзейна закрывала браму.

**Брама** – гэта звычайныя вароты, зробленыя ў замкавай сцяне, праз якія госці траплялі ў замак. Часам такія вароты рабілі ў вежы – так іх прасцей было абараняць. А ў некаторых замках вароты выглядалі як асобны будынак, які быў часткай абарончага вала і месціўся на падыходзе да замка. Такая брама захавалася ў Нясвіжскім замку Радзівілаў, а ў Мірскім замку захавалася магутная вежа-брама.

**Сцяна** – спецыяльная канструкцыя, якая агароджвае ўнутраную прастору замка. Будаваліся сцены з каменю і цэглы, таўшчынёй яны сягалі трох метраў! Знізу яны былі шырэйшыя, а да верху звужаліся – так было зроблена для ўстойлівасці. Ты можаш пабачыць гэта, напрыклад, у Мірскім замку.

**Вал** – гэта высокі земляны насып, такая сцяна з зямлі. Каб зямля з часам не абсядала, усярэдзіне вала рабілі драўляны зруб з тоўстых бярвенняў, які запаўнялі камянямі.

**Палац** спачатку з'яўляўся часткаю замка, дзе размяшчаліся жылыя памяшканні. Паступова палацы становяцца самастойнымі збудаваннямі, дзе жывуць заможныя людзі (шляхта).

**Склеп або падвал** – ніжняя, падземная частка замкавага збудавання. Тут маглі захоўвацца прадукты харчавання, якія перадаваліся наверх у пакоі гаспадара ў вялікім кошыку праз дзірку ў падлозе.




**Заданне:** Перш чым пачаць чытаць тэкст, збяры літары, якія разляцеліся ад моцнага ветру. Слова, якое атрымаецца, абазначае месца, дзе жыве князь або кароль (самая значная асоба ў дзяржаве). Запоўні пропускі ў тэксце гэтым словам.

Сярод усіх замкаў і палацаў, якімі калісьці славілася наша зямля, найбольш магутнымі і велічнымі былі тыя, што належалі вялікім князям літоўскім. Не дзіва! Вялікі князь не толькі кіраваў дзяржаваю, але, адначасова, з'яўляўся найбольш багатым яе жыхаром. Ніхто апроч яго не мог дазволіць сабе ўтрымліваць дзясяткі замкаў і палацаў па ўсёй краіне: ад самых дробных, зробленых з дрэва, да вялізных мураваных гмахаў, якія ўражвалі сваёй веліччу нават замежнікаў. На плячах вялікіх князёў спачывала велізарная адказнасць за лёс дзяржавы. Яны ніколі не сядзелі на месцы: мусілі ездзіць па ўсёй краіне з месца на месца. Таму рэдка калі вялікі князь меў куточак, які ён па-сапраўднаму мог назваць домам. Замест гэтага ён меў шэраг замкаў і палацаў, раскіданых па ўсёй краіне, дзе князь мог спыніцца і жыць, калі наведваў мясцовасць па дзяржаўных справах. Такія будынкі называюцца • • • • • • • • • •.



Сярод найбольш знакамітых • • • • • • • • • • вялікіх князёў літоўскіх варта ведаць замак у Крэва, палац у Горадні і палац у сталіцы былога Вялікага Княства Літоўскага Вільні. Толькі прыгледзьцеся, якія яны розныя! Крэўскі замак вельмі просты і грубы: ён уяўляў сабою невялікі мураваны чатырохкутнік. Сцены ў ім узвышаліся на 3 метры, а таўшчыня іх дасягала 13 метраў. Гэта сапраўдны замак, які мусіў бараніць дзяржаву ад крыжакоў, паўстаў ён на пачатку 15 стагоддзя. Чаго толькі не бачылі гэтыя сцены: падступства, здраду, нават забойства, але, адначасова, каханне, ахвярнасць і храбрасць.



Палац вялікіх князёў літоўскіх у Вільні зусім іншы. Гэта высокі зграбны будынак, гісторыя якога сягае 15 стагоддзя, але той выгляд, які ён зараз мае, замак ён набыў у 16-17 стагоддзях. Як галоўная рэзідэнцыя вялікіх князёў літоўскіх ён стаў сведкаю найважнейшых дзяржаўных падзей: тут заключаўся мір і абвяшчалася вайна, паўставалі дзяржаўныя саюзы, адбываліся найбагацейшыя шлюбныя ўрачыстасці.

У гэты час свет быў ужо менш суворым месцам, чым у часы Крэўскага замка. І палац цалкам адпавядаў сваім часам. Вялікі князь літоўскі Жыгімонт ІІ Аўгуст меў тут найвялікшую ў дзяржаве бібліятэку, якую ён завяшчаў пазней універсітэту і яго студэнтам. У палацы жыла вялікая колькасць розных прыслугі: ад кухараў да музыкаў, якія напаўнялі яго сцены жыццём, нават калі там не было вялікага князя. У 1636 годзе тут прайшла першая ва ўсёй краіне опера. З вялікім захапленнем жыхары Вялікага Княства Літоўскага глядзелі на палац – ён стаў цэнтрам распаўсюджвання культуры і моды па ўсёй краіне.

Нарэшце, трэці замак, адзіная каралеўская • • • • • • • • • •, якая захавалася і знаходзіцца на тэрыторыі Беларусі. Гэта замак у Горадні. Ён таксама мае даўнюю гісторыю. Верагодна, ён паўстаў ужо ў 13 стагоддзі і доўгі час бараніў беларускія землі ад нападу крыжакоў. Але той выгляд, які ён мае цяпер, замак набыў дзякуючы вялікім князям Вітаўту і Стэфану Баторыю. Кароль і вялікі князь Стэфан Баторый, які правіў у 1576-1586 гадах, наогул зрабіў яго сваёй галоўнай • • • • • • • • • • і жыў тут у часы, вольныя ад вайсковых клопатаў, а ў блізкую Белавежскую пушчу ездзіў на паляванне. Усім сэрцам палюбіўшы Горадню, кароль нават загадаў, каб яго пахавалі тут пасля смерці. У пазнейшыя часы замак не страціў свайго значэння. У 1673 годзе было прынята рашэнне кожнае трэцяе пасяджэнне Сойму (парламенту дзяржавы) праводзіць у Горадні. Замак быў найбольш прыдатным месцам для паседжанняў. На працягу ста гадоў шляхта ў даўняй • • • • • • • • • • Баторыя вырашала найважнейшыя пытанні дзяржаўнага жыцця. Горадня стала адной са сталіцаў Рэчы Паспалітай.



# Незвычайныя абарончыя збудаванні Беларусі



Не адны толькі замкі ахоўвалі жыхароў горада падчас войнаў і варожых нападаў. Ім дапамагалі і зусім малыя абарончыя збудаванні. Напрыклад, уздоўж дзяржаўных межаў (у Брэсце, Тураве, Навагрудку, Полацку) узводзіліся магутныя вежы-данжоны ("данжон" па-французску – "вежа"). Да нашых дзён на Беларусі захавалася толькі адна такая вежа 13 стагоддзя ў невялічкім горадзе Камянец Брэсцкай вобласці. Гэтае збудаванне нагадвае вялікі слуп з тоўстымі сценамі, якія прарэзаны акенцамі-байніцамі. Камянецкая вежа складзена з цэглы цёмна-чырвонага і жаўтаватага колераў. Зверху яна калісьці была пакрыта белай тынкоўкай і таму насіла назву "Белая вежа". Унутры вежы-данжона было вельмі цесна, аднак там усё адно рабілі сховішча для боепрыпасаў, запасаў ежы і вады на выпадак аблогі, а таксама размяшчалі пакоі княжацкай сям'і.

*Прытулкам для гараджан падчас вайны маглі стаць і цэрквы. Напрыклад, у Полацку насельніцтва магло схавацца ў Сафійскім саборы, які да 1710 года нагадваў звычайны замак з пяццю вежамі і байніцамі. За тоўстымі сценамі сабор зберагаў і гарадскія скарбы.*



А зараз паспрабуйце ўявіць сабе **царкву-крэпасць**. У 15 –16 стагоддзях на тэрыторыі Беларусі былі пабудаваны **цэрквы**, што нагадвалі замкі. У гэтых храмах не толькі праводзілася набажэнства, але тут можна было схавацца і адбіцца ад варожых атрадаў. Прыкладам з'яўляецца абарончая **царква Нараджэння Багародзіцы** 16-га стагоддзя каля вёскі **Малое Мажэйкава** Шчучынскага раёна Гродзенскай вобласці. Гэтая царква таксама завецца **Мураванкай**. Яна мае высокі востры дах, чатыры круглыя абарончыя вежы па вуглах. Першапачатковая вышыня кожнай вежы была прыкладна 14 метраў (чатырохпавярховы дом). Раней у храме знаходзілася мноства схованак, а пад падлогай ішоў тайны ход. Да пачатку 19 стагоддзя ў царкве былі жалезныя **дзверы-краты – герса**. **Герса** апускалася на ланцугах з нішы над уваходам. Такія дзверы дазвалялі хутка закрыць уваход падчас імклівага нападу ворагаў.



**Мураванка** падобная да **Свята-Міхайлаўскай царквы** 16 стагоддзя ў вёсцы Сынкавічы Зэльвенскага раёна Гродзенскай вобласці. У яе чатырох вуглавых вежах знаходзяцца лесвіцы, што вядуць да байніц. Адтуліны над акруглымі байніцамі дазвалялі назіраць за дзеяннямі праціўніка.

Значна большым за цэрквы-крэпасці з'яўляецца **касцёл Святога Яна Хрысціцеля**, пабудаваны ў 17 стагоддзі ў вёсцы Камаі Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці. Пра тое, што гэта абарончы храм, можна здагадацца, пабачыўшы тоўстыя сцены, магутныя вежы і мноства байніц.



Цікавым абарончым збудаваннем з'яўляецца невялічкі двухпавярховы **дом-замак** 17 стагоддзя ў вёсцы **Гайцюнішкі** Воранаўскага раёна Гродзенскай вобласці. Некалі ён быў акружаны ровам з вадой. Тоўстыя сцены дома былі прарэзаны байніцамі, нібы ў сапраўдным замку, а па вуглах размяшчаліся абарончыя вежы. Пад будынкам меліся сутарэнні. Акрамя пакояў гаспадароў і сталовай, у доме ёсць невялікая казарма – пакой, дзе ў вайну маглі размяшчацца воіны – абаронцы дома.



**Гэты вясёлы тэст дапаможа даведацца, якое абарончае збудаванне Беларусі лепш за ўсё табе падыходзіць!**

**1. У якім месцы ты пабудаваў бы свой замак?**
а) у чыстым полі на ўзвышшы
б) на палянцы пасярод густога лесу
в) на беразе ракі або возера
г) у горадзе, бліз дамоў сваіх родзічаў і сяброў

**2. Месца, дзе ты пабудаваў бы свой замак, павінна быць:**
а) адасобленым і спакойным
б) прыгожым і ўтульным
в) чароўным і загадкавым
г) шумным і шматлюдным

**3. Як павінен выглядаць твой замак?**
а) высокі, вежы якога маюць шматлікія байніцы і вінтавыя пакручастыя лесвіцы
б) маленькі, з невялікім садам, агародзікам і возерам з залатымі рыбкамі
в) магутны, з тоўстымі сценамі і абавязкова з падземным ходам
г) вялікі, са шматлікімі пакоямі і буйным паркам з экзатычнымі дрэвамі ды жывёламі

**4. Які пакой абавязкова павінен быць у тваім замку?**
а) бібліятэка
б) карцінная галерэя
в) падвал з прывідам
г) зала для баляў і прыёмаў

**5. Якая жывёла павінна жыць у тваім замку?**
а) сабака
б) кот
в) леў
г) міфічная істота, напрыклад, грыфон

**6. Каго ты хацеў бы бачыць сваім суседам?**
а) вядомы пісьменнік
б) таленавіты мастак
в) мужны рыцар
г) вялікі князь

**7. Як бы ты апісаў сябе?**
а) спакойны, цікаўны, разважлівы, люблю вучыцца
б) працавіты, акуратны, паслухмяны, адказны
в) спартыўны, смелы, актыўны, люблю вандраваць
г) таварыскі, гаваркі, творчы, артыстычны

**8. Чым ты любіш бавіць вольны час?**
а) чытаць, пісаць вершы / казкі / апавяданні
б) марыць, маляваць, фатаграфаваць
в) займацца спортам і актыўнымі гульнямі
г) танцаваць, спяваць, сустракацца з сябрамі

**9. Кім ты марыш стаць, калі вырасцеш?**
а) вучоны
б) паэт, мастак
в) праграміст, дызайнер
г) бізнесмен, вядомы артыст

адказы глядзі на наступнай старонцы

**Большасць адказаў «А»:** Табе падыходзіць абарончая царква-крэпасць у Сынкавічах. Пагроза з боку іншаземцаў у 15–16 стагоддзях выклікала неабходнасць будаваць не толькі звычайныя замкі і крэпасці, але і ўмацаваныя цэрквы-кастэлі (слова "кастэль" па-лацінску абазначае "крэпасць"). Царква ў Сынкавічах мае выгляд сапраўднага непрыступнага замку: тоўстыя сцены, чатыры высокія вежы па вуглах, вузкія вокны-байніцы. Падчас войнаў такая царква магла не толькі схаваць за сваімі сценамі насельніцтва, але і некалькі тыдняў мужна трымаць аблогу. Як сапраўдная царква-кастэль, ты спакойны і ўраўнаважаны. Цэрквы на працягу гісторыі з'яўляліся цэнтрамі адукацыі і перапіскі кніг, таму твой выбар сведчыць, што ты прагнеш ведаў, любіш чытаць і праводзіш шмат часу ў чароўным свеце кніг.

**Большасць адказаў «Б»:** Табе падыходзіць дом-крэпасць у Гайцюнішках. Незвычайны дом у выглядзе маленькай крэпасці (памерам усяго 15 х 34 метры) быў пабудаваны ў вёсцы Гайцюнішкі ў 16 стагоддзі. Гэты невялікі замак быў створаны па праекце галоўнага архітэктара Вялікага Княства Літоўскага і спярша належаў яму самому. Потым будынак пераходзіў ад уласніка да ўласніка (нейкі час домам валодаў мастак, які распісаў сцены прыгожымі выявамі). Як і дом-крэпасць у Гайцюнішках, для незнаёмых людзей ты спачатку можаш падацца непрыступным і халодным, аднак у глыбіні душы ты вельмі шчыры і адкрыты, цэніш прыгажосць, любіш займацца творчасцю.

**Большасць адказаў «В»:** Табе падыходзіць Мірскі замак. Мірскі замак, напэўна, самае вядомае ўмацаванне ў Беларусі. Гэтую велічную пабудову бачна здалёк, яна ўражвае сваёй моцай і прыгожасцю. Замак шмат разоў перабудоўваўся, і кожны яго гаспадар надаваў замку нешта сваё. Табе, як і Мірскаму замку, уласцівая ўпартасць і цвёрдасць характару. Разам з тым, ты любіш сакрэты і таямніцы, таму цябе не пужаюць ні цёмныя сутарэнні, ні прывіды ў іх.

**Большасць адказаў «Г»:** Табе падыходзіць каралеўскі палац у Гродне. Гродзенскі замак не толькі надзейна абараняў Беларусь ад рыцараў-крыжакоў, але і ахоўваў багаты і прыгожы горад. У 16 стагоддзі замак стаў любімай рэзідэнцыяй вялікага князя літоўскага і караля польскага Стэфана Баторыя. Часткай замка стаў шыкоўны палац, які меў тоўстыя сцены, абарончыя вежы і пад'ёмны мост – гэта нагадвала пра яго вайсковае прызначэнне. Ты, як і гродзенскі палац, любіш знаходзіцца ў цэнтры ўвагі, маеш шмат сяброў ды знаёмых і заўсёды гатовы выступіць на іх абарону.

**Разгадай рэбусы**



+








+ ШТЫ





Б +  + ЦА






У сярэднія вякі Беларусь называлі «краінай замкаў». Праз кожныя 20 - 30 кіламетраў стаялі спецыяльныя абарончыя пабудовы, пад надзейную ахову якіх у трывожныя часы магло схавацца ўсё навакольнае насельніцтва. На жаль, да нашых дзён замкаў дайшло ўсяго некалькі дзесяткаў. Уважліва вывучыўшы мапу, ты зможаш даведацца, ў якіх гарадах Беларусі калісьці існавалі свае абарончыя збудаванні, а дзе і дагэтуль можна знайсці іх парэшткі.

 - замкі, якія захаваліся да нашых часоў

 - замкі, якія былі разбураны

 - замкі, якія не захаваліся




Заданне: Давейдайцеся, дзе былі замкі і палацы ў вашай мясцовасці. Знайдзіце іх на карце замкаў, а калі не знайшлі – дамалюйце.

# Экскурсія па замку

*Нашы карэспандэнты Цікаўка і Васілёк вядуць рэпартаж з 17 стагоддзя. Мы запрошаныя ў сапраўдны магнацкі замак, дзе сустрэнемся з яго гаспадаром!*



Замак бачны здалёк. Вежы высяцца над горадам, у якім адно маленькія драўляныя хаткі і трохі большыя камяніцы. У цэнтры – рынкавая плошча, ад яе вядзе вуліца Замкавая. Ідзём па ёй, пераходзім над глыбокім ровам па драўляным мастку. Трэба быць акуратным: Васілёк заглядзеўся на вусатых самоў унізе, і сам ледзь не далучыўся да іх!

Каля брамы нас сустракае Кашпар – ён князеў сакратар і прыдворны гісторык. Вучыўся ў Італіі, ведае замежныя мовы. Да абеду ён пад дыктоўку князя піша лісты ды дапамагае разбірацца з дакументамі. А ў вольны час ідзе ў замкавую бібліятэку і піша трактат пра гераічнае мінулае княскага роду, а заадно і ўсёй краіны. Або рыбу ловіць.

**"Вось, зірніце, – паказвае ён угору. – Над брамай у нас – дзыгар, а па-вашаму "гадзіннік". Такога і ў Вільні няма. А над гадзіннікам звон – на экстранны выпадак: пажар, вайна, прыезд вялікага князя..."**

**Мінаем вусатых стражнікаў з алебардамі і праходзім пад брамай. Стражнікі, сувора зірнуўшы на нас, вяртаюцца да размовы: "Гэны гэтаму як даў!" – "А гэты паваліўся" – "Пакуль гэты ўставаў, гэны ўжо змыўся!"**

**"Рыцарскі турнір абмяркоўваюць, – тлумачыць Кашпар. – Заўзятары". Дык вось што было ў іх замест футболу!**



Адразу за брамай мы бачым царкву, далей, побач з домам святара, калодзеж. Нават калі ворагі падступяць пад сцены, абаронцы замка не застануцца без пітной вады.

За царквой нам адкрываецца від на ўвесь замкавы двор. Тут многа драўляных пабудоў, дзе жывуць слугі, памочнікі, майстры... З расчыненых дзвярэй чуваць песня: жанчыны, спяваючы, ткуць. Побач кузня: тут не да спеваў – гудзе горан, звініць молат аб кавадла. Два дужыя хлопцы куюць патрэбныя ў гаспадарцы рэчы: дзвярныя клямкі, ліхтары, падковы... Побач кухня, дзе гатуюць стравы для княжацкага стала, і яшчэ адзін пажаранебяспечны будыначак: лазня. Яна пахне квасам, зёлкамі, распаленым смалістым дрэвам. ...Але чым гэта тхне ад кутняй замкавай вежы? Фу! Нешта вялікае ў замку здохла? «Ай, – адмахнуўся Кашпар. – Гэта наш смеццеправод. Пад вежай – вялізны падвал, куды праз спецыяльную адтуліну мы скідаем смецце. А як набіраецца поўнае падзямелле – выкідаем". Не пазайздросціш тым, каму раз на пяць гадоў даводзіцца чысціць такі смеццеправод!

Добра, што побач замкавы сад з яго водарамі: яблыні, грушы, слівы, вішні, а таксама кветнік з цюльпанамі і ружамі — якое хараство! Пагдядзі, Васілёк... Вось гарэза — ужо кудысьці пабег! Дзе яго шукаць... О, выходзіць аднекуль, увесь у сене. Васілёк, нам жа яшчэ з князем сустракацца! Дзе гэта ты быў? Аказваецца, Васілёк знайшоў княскую стайню. Тут некалькі чалавек мыюць, чысцяць, расчэсваюць коней. Коні – асаблівы гонар магната. Так цяпер багатыя людзі ганарацца дарагімі "Бэнтлі" ды "Ламбаргіні". Каля сваіх улюбёнцаў мы сустракаем і князя.

Апошні раз пагладзіўшы любімага каня, гаспадар вядзе нас да свайго палаца. Раней княская сям'я жыла ў вежы (не ў той, пад якой смеццеправод). У вежы было халаднавата і не дужа ўтульна, прызнаўся нам князь. Дый княгіню кажаны палохалі. Але ў вежы бяспечна: у любы момант можна арганізаваць абарону, калі прыйдзе вораг. Цяпер часы спакайнейшыя, і князь пабудаваў для сваёй сям'і ладны палацык. Заходзім у сені – калідор, куды выходзяць некалькі дзвярэй: невялічкай кухні, пакояў для слуг, залы-сталовай, бібліятэкі. Падлога ў доме драўляная, у сенцах дрэва мудрагеліста выкладзена квадрацікамі — сапраўдны паркет! Сцены абабітыя зялёнай тканінай.



**– Гэта каб цяплей было. Ну, і трэшчыны прыкрыць, – падміргвае князь. – Тканіна прыбітая да сцяны, час ад часу здымаем яе, каб пачысціць. А вось нашы самыя дарагія шпалеры. З самой Францыі падарунак!**

**Шпалерамі князь называе габелен. Сені аздобленыя не толькі габеленам, але і ласінымі ды аленевымі рагамі. Ёсць нават рог насарога, прывезены дзедам княгіні з падарожжа ў Святую Зямлю.**

**Князь запрашае нас у бібліятэку.**

**Мэблі тут мала: два куфры, крэсла, стол і ўслончык для сакратара. На стале пяро, шкляная чарнільніца (князь называе яе «каламар»), падстаўка для кніг. Ляжыць камень і стаіць сподачак з мукой.**

**- А нашто Вам камень – з акна ў роў кідаць? А давайце хто далей!.. — Васілёк ужо шукае поглядам акно, добра, што яно надзейна схавана за шырмай.**

**- Не, – цярпліва тлумачыць магнат. – Каменем я прыціскаю старонку**

кнігі, на якой спыніўся, або стос дакументаў, які перагледзеў.
- У нашу эпоху такі прадмет называецца прэс-пап'е. А навошта Вам мука, шаноўны князь? Есці, калі прагаладаецеся?
- Не, – засмяяўся магнат. – Мяне тут няблага кормяць. Мука вось нашто: калі пішу ліст або падпісваю загад, прыходзіцца доўга чакаць, пакуль высахне атрамант (так князь называе чарніла). Каб ён хутчэй высыхаў, я прысыпаю яго мукою, – князь вядзе нас да выхаду, па дарозе адчыняючы вечкі двух фарбаваных у зялёнае і чырвонае куфраў. – Тут у мяне дакументы і свечкі рознага памеру: адны для дня, другія – каб чытаць і пісаць уначы. А таксама мая любімая гульня – шахматы. Бывае, раскладаю дошку на стале і гуляю з гасцямі ды сакратаром.



Магнат вядзе нас на другі паверх. Паўсюль каміны: такі вялікі палац няпроста ўцяпліць без батарэй, якія мы цяпер маем! Васільку вельмі падабаюцца дзверы: масіўныя, драўляныя, яны закрываюцца на фігурныя клямкі ў выглядзе марскіх каньКоў, львоў, цмокаў... На хвіліну зазіраем у пакой княгіні. Тут ложак з атласнымі падушачкамі, на падлозе стаіць вялікі гадзіннік, столік. У куфры ў кутку – цэлая аптэчка: лекі і зёлкі ад розных хвароб. Калі нехта ў палацы хварэе, прыходзяць да княгіні, а яна ўжо лечыць.

**- Жонка ў мяне любіць усё па апошняй модзе, – ці то хваліцца, ці то скардзіцца князь. – Вось паклалі ёй на падлогу плітку белую і чырвоную – я кажу «холадна ж будзе!», але ёй абы прыгожа. Сцены затое ўцяплілі як след: прыбілі некалькі слаёў ваўнянай тканіны. Ложак во з Індыі замовілі: жонка надта хацела. Ложкі ў нас зусім нядаўна з'явіліся – раней мы на падлогу матрацы з сена клалі – і мякка, і духмяна – любата!**

Уваходзім у спальню князя. Вялізны ложак акуратна засланы мядзведжым футрам. Побач крэсла і два куфры – зялёны і сіні. У адным дакументы і кнігі, у другім вопратка. З цяплом праблем няма: у пакоі два каміны з рознакаляровай кафляй – сіняй, зялёнай, жоўтай... На кафлі – розныя малюнкі. Ёсць і цэлы комікс: зайцы ўпалявалі паляўнічага, прывязалі яго да жэрдкі і нясуць! А вось зайцы палююць на ваўкоў... Князь нецярпліва чакае, пакуль мы агледзімся, і падводзіць нас да акна.



**- Вось!**
**- Што «вось»?**
**- Вось, шкляное акно! – з гонарам кажа князь і адыходзіць палюбавацца. Вельмі прыгожае, нічога не скажаш. Усё ў нейкіх чорных кружочках-рамачках, а ў кожны кружочак устаўлена шкельца.**
**- Шкляныя вокны ў нас зусім нядаўна з'явіліся – надта дарага было. Раней у рамы ўстаўлялі прамасленую паперу, тканіну, бычыны пухір... Гэтыя матэрыялы прапускалі зусім трохі святла нават у самы сонечны дзень.**
**Цудоўна, што нашы продкі навучыліся шкліць вокны! Мы ад усёй душы павіншавалі князя.**



**Яшчэ адзін гонар магнацкай сям'і – драўляная столь.**
**- Не тое, што раней – высокія цагляныя скляпенні. Пра кажаноў я казаў вам... Цяпер людзі нашага кола могуць сабе дазволіць і такую прыгажосць. Для кожнага пакоя зрабілі пад памер: у каго ніжэй, у каго вышэй – і на кожным розная разьба. У мяне ў пакоі квадрацікі, у жонкі – кветкі. Дачка папрасіла сабе па краі птушак выразаць – і майстар усё зрабіў! Такі ж харошы майстар! Можа, даць вам адрас? – князь забыўся, з якога мы часу.**
**- Цікава, што сказаў бы князь пра шкляныя і люстэркавыя столі, падлогі і дзверы, якія самі раз'язджаюцца – як у гіпермаркеце? – шэпча мне Васілёк.**
**Напрыканцы экскурсіі магнат запытаўся:**
**- Ці не трэба вам у трансет? Вось у мяне які – і на двор ісці не трэба!**



Мы згадзіліся, бо цікава ж, што за такі трансет. Аказалася, ідзецца пра прыбіральню! Уваход у яе з княскага пакою. Такі туалет і цяпер можна пабачыць на вёсцы – дзіра ў падлозе і драўляны пастамент, каб было зручней.
Мы ўжо пачалі збірацца, як выявілася, што на вячэру да князя прыедуць госці, і нас таксама запрашаюць застацца! Што ж, з ахвотай! У сталовай ужо запалілі свечкі ў латунных ліхтарах, прыбітых да бэлек. На лавы раскладаюць чырвоныя, зялёныя і жоўтыя дыванкі-каберцы – гэта для гасцей («Яны ламаюць, мы рамантуем – кожны раз адно і тое ж», – буркоча пад нос слуга). Самі гаспадары сядаюць на абабітыя скурай крэслы ў галаве стала. Пад сталом зручна ўладкаваўся сабачка – вялікі сябар княжатаў. Слугі ставяць прыборы і посуд. За сталовае срэбра адказвае спецыяльны слуга — крэдэнцар.

**- Вось, давялося на кожнай пасудзіне выбіць свой герб, – жаліцца князь, – бо пасля застолляў, бывала, прападалі місы.**
**Пакуль размаўляем, Васілёк ужо асвоіўся і носіцца па зале. Секунда – і ён ужо на падлозе, трэ гузак на галаве і гатовы заплакаць:**
**- Што ж такое: я бег у сад да тых прыгожых птушачак, а ўрэзаўся ў сцяну?!**
**- Шаноўны Васілёк, ты зрабіў камплімент майму мастаку. Насамрэч райскі сад, арка і гірлянды кветак несапраўдныя. Гэта фрэскі – насценныя малюнкі. А сцены, дзе няма фрэсак, мы вырашылі абабіць пазалачонай скурай з узорам. Кажуць, гэтак сама вялікі князь упрыгожыў свой пакой у палацы ў Вільні. Я ўжо год там не быў, але скора паеду на сойм, дазнаюся.**
**Каб перавесці ўвагу Васілька, які шмыгаў носам пасля ўдару аб сцяну, магнат стаў паказваць калекцыю зброі:**
**- Гэтыя шаблі ды мячы сабралі мае сяляне на месцы бітвы з крыжакамі. Ім ужо дзвесце гадоў!**

У залу забягае слуга, кланяецца і паведамляе пра гасцей, якія ўжо заязджаюць у замкавую браму. Апошнія прыгатаванні: запусціць срэбны фантан для віна і вады ў кутку, а таксама паставіць місу ды збанок з вадой, каб госці маглі вымыць рукі.
Я ў захапленні! А Васілёк... Васілёк!!! Васілёк, ты што, заснуў?!...

**Заданне:** Размалюй на свой густ сталовы пакой шляхціча. А калі вырашыш, што на стале не хапае тваіх улюбёных прысмакаў - смела дамалёўвай іх!

# Размалёўка «Шляхецкае баляванне»

Паглядзі, якія баляванні ладзілі ў сваіх замках беларускія шляхцічы. Сталы ажно гнуліся ад страў і пітва! Боршч з ялавічыны, баравікі, апенькі, кумпякі, паштэцікі, печаныя галубы, рабчыкі, цецерукі, індыкі, ялавічына, стронга і карпы, цыбуля, пятрушка, рэпа, капуста, інжыр, масліны, міндаль, зацукраваныя яблыкі ды апельсіны, цукеркі і піражныя. На высокім ганку ў сталовай зале звычайна гралі музыкі на скрыпках, а гасцям спяваў хор. Як жа хораша было!







**Ш**тодзённае жыццё шляхціца ў замку ці палацы збольшага было размераным і спакойным, як жыццё кожнага з нас. Але шляхціцы любілі і павесяліцца, асабліва ў выходныя ды святочныя дні. Як ты памятаеш, шляхціц – перш за ўсё рыцар, і яго ўлюбёная забава была па-сапраўднаму «мужчынскай»: паляванне або, як казалі нашы продкі, ловы. Але вось што цікава: паляваць любілі не толькі мужчыны, але і жанчыны. Вялікі князь літоўскі Вітаўт, яго жонка Ганна і іх стрыечны брат, кароль польскі Ягайла, цэлыя зімы праводзілі за гэтым заняткам. Пасля ловаў звычайна ладзіліся баляванні, куды запрашалі шматлікіх гасцей. Калі ўпаляваную дзічыну не паспявалі з'есці з гасцямі, паляўнічыя частавалі ёю жыхароў наваколля.






Для палявання пры замках і палацах спецыяльна гадавалі паляўнічых сабак ды сокалаў. У Нясвіжскім парку нават існуе помнік такому сабаку: падчас палявання паранены князем мядзведзь ледзь не расправіўся з крыўдзіцелем-паляўнічым самым рашучым чынам. Але адданы сабака паспяшаўся на дапамогу і адцягнуў на сябе ўвагу раз'юшанага звера, чым выратаваў жыццё гаспадару, а сам загінуў. Удзячны князь загадаў паставіць помнік свайму выратавальніку.





Шляхціцам падабаліся не толькі рызыкоўныя авантуры. Яны любілі інтэлектуальныя забавы: шарады, загадкі, галаваломкі, размоўныя гульні. У замках і палацах бавілі час за гульнямі ў косці, карты, шахматы і шашкі.

З 16 стагоддзя пры дварах пачынаюць асабліва цікавіцца музыкай. Граць на музычных інструментах умелі і жанчыны, і мужчыны, гэтаму вучыліся з маленства, як і танцам. Ніводная імпрэза не абыходзілася без іх! Бона Сфорца, маці вялікага князя Жыгімонта Аўгуста, па ўменні танчыць пераўзыходзіла ўсіх жыхароў віленскага палаца і яго гасцей.





Шляхцічы таксама вельмі любілі маскарады і прадстаўленні. У Нясвіжскім палацы ў 18 стагоддзі нават з'явіўся свой аматарскі тэатр. Княгіня Францішка Уршуля Радзівіл (стваральніца тэатра) сама пісала для яго п'есы і грала ў спектаклях. Да нашых дзён у замкавым парку захавалася тэатральная паляна, якая ўлетку выкарыстоўвалася як сцэна для княскага тэатра.



**Заданне:** Аднойчы на княскай псарні зламаўся замок, і ўсе шчаняты разбегліся па замку. Пасля таго, як іх сабралі, князь заўважыў, што некалькі рэчаў з яго пакояў прапалі. Здаецца, што нехта вырашыў зрабіць іх сваімі цацкамі! Паспрабуй знайсці княскія рэчы на малюнку.









**Дарагі сябра, хочаш павандраваць у часе і наведаць сапраўдны палац? Тады Цікаўка з Васільком раяць табе паехаць у Нясвіж! Тут ты пазнаёмішся са старадаўнім палацам і яго гаспадарамі – князямі Радзівіламі, на ўласныя вочы пабачыш пакоі магнатаў, даведаешся што елі, дзе спалі, як працавалі ды адпачывалі тутэйшыя жыхары.**





# Каралевіч і фея Белага возера

Гісторыя, якую я табе раскажу, адбылася даўно, вельмі даўно, нават самы стары дуб у лесе не ўспомніць пра тыя старажытныя часы.

Шмат стагоддзяў таму стаяў на ўзвышшы магутны і велічны замак. За векавую гісторыю зведаў ён і добрыя і благія часы. Але няшмат было тых, хто адважыўся на яго напасці. Высокія муры, глыбокі роў, напоўнены вадой, трапныя гарматы ды моцнае войска надзейна баранілі гаспадароў ад няпрошаных гасцей.

Жыў у замку каралевіч. Ён быў зусім малады, але слаўны ў блізкіх і далёкіх землях сваёй смеласцю, шчодрасцю і добрым сэрцам. Яму прарочылі лёс вялікага караля. У замку часта збіраліся госці – сябры каралевіча. Яны разам весела балявалі ў вялікай зале, ярка асветленай і поўнай сталоў са смачнымі стравамі ды вінамі. Аднойчы падчас такога балю каралевіч выйшаў з палаца пахаладацца на замкавай сцяне.

Глыбока, з асалодай удыхаў ён марознае паветра, аглядаў навакольныя лясы і палі. Раптам зусім побач ён пабачыў дзяўчыну. Яна сядзела паміж зубцамі сцяны, валасы яе развяваліся над безданню. Каралевіч, забыўшыся пра ўсё на свеце, глядзеў на невядомую прыгажуню.

- Хто ты? Я ведаю ўсіх сваіх падданых, але цябе ніколі не сустракаў, – спытаў каралевіч.

А была гэта фея Белага возера – аднаго з лясных азёраў недалёка ад замка.

У той час феі жылі ў азёрах, рэках, запаветных дрэвах. Людзі фей баяліся і не давяралі ім. Яны нават асушалі азёры і seклі дрэвы, каб пазбавіцца ад фей, і гэты чароўны народ асцерагаўся паказваць людзям сваю магічную сілу. Але гэты хлопец, каралевіч, некалі падчас палявання забрыў да яе возера і так ёй спадабаўся... Фея вырашыла не казаць яму праўду.

- Я каралеўна з далёкай зямлі, -- адказала яна з усмешкай. – Толькі сёння прыехала, але ты быў так заняты гасцямі, што не заўважыў.

З таго часу каралевіч забыўся на гасцей, гаспадарчыя справы і рыцарскія практыкаванні. Штодня сустракаўся ён з дзяўчынай – то на сцяне, то ў лесе, то ў садзе, які рос каля замка. Гаварылі пра ўсё, толькі пра сваё каралеўства фея ўпарта маўчала.

Кожны раз пасля сустрэчы яна вярталася ў свой чароўны азёрны свет. Ішло лета, набліжалася Купалле – самы доўгі дзень і самая кароткая ноч у годзе. Людзі ў тую ноч палілі вогнішчы, шукалі зёлкі, пускалі вянкі па вадзе. Чароўны народ на Купалле таксама збіраўся разам. Феі, вадзянікі, мятлушкі – усе ўжо ведалі, што фея Белага возера сустракаецца з чалавекам. Ніколі раней такога не здаралася. Доўга яны думалі, як быць: калі цб людзі ўзялі ў палон фею і дазналіся пра таямніцу Белага возера, то маглі вынішчыць увесь чароўны народ.



Але чараўнікі вырашылі ўрэшце адпусціць фею да каралевіча, але з адной умовай: калі яна зможа год – ад Купалля да Купалля – пражыць чалавечым жыццём, без чараў. А калі феі год не чаравалі, то назаўжды гублялі чароўную сілу! Прыдумалі выпрабаванне і каралевічу – яму далі права на адзін чароўны ўчынак. Але, скарыстаўшыся ім, ён немінуча загубіў бы сябе. Фея паляцела на спатканне, радая, што зможа нарэшце расказаць каханаму праўду. Пачуўшы гісторыю дзяўчыны, каралевіч быў агаломшаны, але шчаслівы і згодны на ўсё, толькі б быць з каханай.

А назаўтра затрубілі пад брамай трубы – і на замкавы двор прыехала карэта маці каралевіча, вялікай каралевы, у суправаджэнні світы. Яна прыехала ў сынаў замак, каб сказаць, што знайшла яму нявесту – багатую замежную прынцэсу. Але сын не захацеў нават слухаць пра яе. Ён гатовы быў адмовіцца ад багацця і каралеўства дзеля сваёй феі. У запале хлопец расказаў маці пра сваё каханне.

Каралева думала ўсю ноч. Ад шлюбу сына з багатай прынцэсай залежаў лёс дзяржавы: абражаныя адмовай суседзі маглі пайсці вайной... Нараніцу яна вырашыла загубіць фею. Паслала пяцьдзясят сваіх слугаў выкапаць вялікі роў, каб з Белага возера сышла вада.

Раніцай фея не прыйшла на спатканне. Занепакоены каралевіч кінуўся да возера і пабачыў на яго месцы некалькі плыткіх лужын – падземныя крыніцы не маглі напоўніць возера, бо ўся вада сыходзіла ў выкапаны за ноч глыбачэзны роў.

Ён знайшоў фею на ўзбярэжжы каля вялікага каменя – яна ляжала нерухома і падавалася нежывой.

Каралевіч, не раздумваючы, скарыстаўся сваім правам на дзіва: ён папрасіў сабе надзвычайнай сілы. Адзін кідаў ён вялізныя камяні, перасоўваў горы зямлі – і ўрэшце засыпаў роў. Возера пачало напаўняцца, і фея расплюшчыла вочы, прыўзнялася...

Яна зразумела, што для яе зрабіў каралевіч. А той чакаў немінучай смерці за парушэнне правіла – ды тая ўсё не прыходзіла. Закаханыя разам вярнуліся ў замак. Каралева-маці, пабачыўшы іх, усё зразумела і з’ехала. А назаўтра па ўсім краі запалалі агні і зазванілі званы – прыйшла пошасць. Так збыўся праклён. Захварэў і каралевіч. Яго білі дрыжыкі, ён трызніў і нікога не пазнаваў. І калі здавалася, што выратавання ўжо няма, фея рашылася. Яна выйшла на бераг са свайго возера, сабрала зёлак, узяла вялікі кацёл і пачала варыць чарадзейныя лекі. Фея напаіла імі каралевіча, а пасля пайшла па краі лячыць хворых. Яна разумела, што прымяненне чарадзейнай сілы назаўжды закрые ёй шлях да каханага, але не магла трываць пакуты каралевіча і яго народа.

Ніколі больш фея не выходзіла да каралевіча, але так і засталася жыць у возеры. Каралевіч, а пасля слаўны кароль, часта прыходзіў да вады і бачыў яе замест свайго адлюстравання. Яны размаўлялі, раіліся і ім было не адзінока. Нягледзячы на разлуку, каралевіч і фея былі ўдзячныя лёсу за кароткае, але такое палкае пачуццё. Гэта гісторыя стала ўзорам для ўсіх закаханых пар: так трэба ставіцца да свайго каханага, як каралевіч і фея ставіліся адно да аднаго, ахвяруючы найдаражэйшае.



ВЯСЁЛЫЯ ЦІКАВОСТКІ

## Карова-здрадніца і легенда мядзельскага замка



Звычайнай справай у жыцці замкаў былі аблогі і штурмы. Для таго замкі і будаваліся, каб перашкодзіць ворагу беспакарана захопліваць нашу краіну. Нашы продкі пускаліся на розныя хітрыкі, каб зрабіць свае замкі непрыступнымі. У народнай памяці захавалася легенда пра Мядзельскі замак і яго патаемны мост. Мядзел – гэта мястэчка на паўночным захадзе Беларусі. Яно стаіць між азёр, і замак там існаваў з далёкага 14 стагоддзя. Ён стаяў на паўвостраве, між возерам і гразкім балотам.

Яго сцены і магутная вежа надзейна баранілі жыхароў ад ворагаў. Нават падысці да яго хутка і незаўважна было немагчыма – адзіны шлях ляжаў праз багну. Як сведчыць легенда, замак з зямлёй злучаў доўгі мост, збудаваны проста ў балоце – над ім быў слой твані недзе па калена даросламу чалавеку.

І калі ў чарговы раз Мядзельскі замак абклалі ворагі – народная памяць дакладна не захавала звестак, ці то шведы гэта былі, ці то маскоўцы – яны нават да сцен не маглі падступіцца праз непралазнае балота. Так і пайшлі б ні з чым, калі б не з'явілася неразумная жывёла. Звычайная карова, спакусіўшыся на сакавітую траву каля замкавых сценаў, пабрыла праз балота па схаваным мосце проста на вачах у ворагаў. Яе шмат разоў раней пераганялі ў замак, дарогу яна ведала. Ворагам заставалася толькі ісці следам за каровай... Так быў разбураны грозны Мядзельскі замак, цяпер толькі зялёныя пагоркі хаваюць яго парэшткі.

## Пад'ёмнік для князя

Калі вы будзеце ехаць паўз мястэчка Мір, то яшчэ здалёк пабачыце грандыёзны Мірскі замак. У адной з яго вежаў (той, што знаходзіцца па правую руку ад уязной брамы) ужо многа стагоддзяў захоўваецца надзвычай цікавая рэч. Гэта – велізарны кошык. У княскім замку гэты кош служыў у якасці... ліфта! Ліфт даўней выклікалі не кнопкай, а голасам: прасілі апусціць ці падняць кошык на пэўны паверх. Калі высакародная асоба заходзіла ў ліфт, слугі на вяроўках падымалі ці апускалі кошык з князем праз вялікія дзіркі, спецыяльна зробленыя ў падлозе кожнага паверху. Можа быць, ліфт гэты выкарыстоўвалі не толькі высакародныя асобы: слугі, засумаваўшы, маглі катаць на плеценым ліфце адзін аднаго або нават сваіх каханых дзяўчат.





## Акіян у гасцёўні

Палац у Косаве на Брэстчыне яшчэ даволі малады, яму трошкі болей за 150 гадоў. Уласнікі замка імкнуліся, каб іх дом пакідаў незабыўнае ўражанне. Яны прыдумалі, каб кожная вежа палаца сімвалізавала адзін з месяцаў года. Напрыклад, чатыры цэнтральныя вежы абазначалі найцяплейшую пару: травень, чэрвень, ліпень і жнівень. У любую пару ў замку былі пакоі, якія ярка асвятляліся сонцам. Такія пакоі рыхтавалі да сонечнага дня загадзя, упрыгожвалі іх кветкамі і імкнуліся бавіць час менавіта ў іх. Адна з легенд кажа, што замест сабакі-вартаўніка ў гаспадароў – графаў Пуслоўскіх – жыў сапраўдны леў, якога вечарамі выпускалі пагуляць. Існуюць звесткі і пра бальную залу Косаўскага палаца. Уявіце, што яе падлога была шкляной! А пад шклом у басейне з вадой плавалі разнастайныя рыбкі.

Унук уласнікаў палаца прайграў яго ў карты. Паступова грандыёзная пабудова прыйшла ў заняпад. Нядаўна пачалася рэстаўрацыя палаца, і хутка мы зможам убачыць яго такім, якім ён быў пры графах Пуслоўскіх. Хіба што... месца льва, напэўна, зойме вартавы сабачка :)



## Каралева-чараўніца і змяіны цар



А яшчэ людзі кажуць, што ў прадаўнія часы ў Мядзельскім замку жыла каралева-чараўніца. Аднаго разу яна выратавала змяінага цара, і той у знак падзякі забараніў свайму народу пладзіцца ў ваколіцах замка. Хочаце верце, хочаце не – змеяў на замчышчы няма і цяпер.

## Замкі-вязніцы

Замкі выкарыстоўвалі не толькі для абароны. Уласнікі трымалі ў іх палонных, ворагаў, прэтэндэнтаў на трон... Амаль кожны прыватны замак бачыў такіх вязняў у сваіх скляпеннях. Напрыклад, у Крэве вялікі князь Ягайла ўтрымліваў свайго дзядзьку, вялікага князя Кейстута, а таксама стрыечнага брата, будучага кіраўніка дзяржавы Вітаўта.
Па легендзе, Вітаўта вызваліла яго жонка. Калі яна прыйшла наведаць мужа ў вязніцы, яе служанка пераапранулася ў Вітаўта, а Вітаўт схаваўся пад вопраткай служанкі і разам з жонкай уцёк з Крэўскага замка. Паступова дзяржаўныя кіраўнікі сталі будаваць вязніцы-замкі, іх так і называлі – замкамі. Адзін такі даўні турэмны замак захаваўся ў цэнтры Мінска на вуліцы Валадарскага. У Гродне ў турэмным замку нядаўна зрабілі музей.






*– Цікаўка, ты не ведаеш, адкуль у Мінску вуліца Замкавая? Ніякага замка я тут не бачу... – запытаў аднойчы Васілёк сваю сяброўку, калі яны разам гулялі па горадзе.*

*– Так, зараз тут няма і следу замка. А некалі гэта вуліца агінала высокую замкавую гару на беразе Свіслачы. Рэшткі старажытнага замка і цяпер ляжаць у зямлі, пад асфальтам.*

*– Пад асфальтам! І як мне цяпер іх убачыць?! – захныкаў хлопчык.*

*– Вось гэта якраз не праблема! – ціўкнула Цікаўка. – Паляцелі ў музей!*

*І сябры скіраваліся ў Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь.*



Мінскі замак (іншыя назвы: Стары горад, Старое места, Замкавая гара, Замчышча) – месца, адкуль пачыналася наша сталіца. На жаль, да сённяшняга дня не дайшло ні адной выявы старажытнага Мінскага замка. Толькі дзякуючы рэканструктарам мы можам сабе ўявіць, як выглядаў стары горад. Ён быў пабудаваны ў 11 стагоддзі на ўзвышшы паміж дзвюма рэкамі – Свіслаччу і Нямігай. Стваралася ўражанне, нібы Менск (так раней называлася сталіца) стаіць на зялёнай выспе. Цяпер у гэтым месцы шуміць праспект Пераможцаў і знаходзіцца выхад з метро “Няміга” (папрасіце бацькоў паказаць вам гэта месца).

Рака Няміга цяпер зусім маленькая, яна цячэ ў трубе пад зямлёй. З усіх бакоў Старое места было абаронена пясчаным валам вышынёй 8 метраў (як трохпавярховы дом!). На грабянях вала стаялі магутныя драўляныя сцены. Трапіць у замак можна было толькі праз адну браму з паўднёвага боку – блізка ад сучаснага выхаду з метро “Няміга”.

У замку, апроч княскага дома, было некалькі вуліц. Падчас раскопак старажытнага Менска быў знойдзены фундамент мураванай царквы, якая чамусьці так і засталася недабудаванай. Гэта быў адзіны каменны будынак у горадзе. Усе астатнія дамкі былі драўляныя (як ты думаеш, чаму?), і нават вуліцы масцілі бярвеннем (каб не было так гразка). Па драўляных ходніках князю з дружынай (войскам), гандлярам і рамеснікам было зручней перамяшчацца па замчышчы. Сялібы гараджан стаялі ўздоўж вуліц. У кожным двары, апроч хаты, быў хлеў, у якім трымалі кароў, коней і авечак, майстэрні і іншыя пабудовы.

Замкавыя сцены на працягу стагоддзяў абаранялі не толькі жыллё князя, але і невялікі горад. Калі набліжаўся вораг, у замак беглі хавацца ўсе тыя, хто жыў за яго сценамі.





– Цяпер тут паўсюль асфальт і плітка, зусім цяжка зразумець, які тут быў замак і як жылі ў ім людзі, – зажурыўся Васілёк. – Вось каб запусціць пад зямлю які-небудзь спецыяльны апарат, тут нават і дзірка ёсць ...

– Не трэба ніякага апарата! – сказалі раптам з дзіркі, і ўслед з яе паказаўся Кроцік.

– Я чуў вашу размову і магу дапамагчы! Капаючы норы, мы з сям’ёй шмат чаго бачым і знаходзім. Часам нават падкладаем нашы знаходкі археолагам – хай у ваш музей трапляюць. І чаго там толькі няма!

Напрыклад, зброя і рыштунак старажытных воінаў: кальчугі, наканечнікі коп’яў і стрэл, шпоры і страмёны. А яшчэ – упрыгожванні са шкла і метала: пярсцёнкі, бранзалеты, падвескі. У горадзе жыло шмат рамеснікаў, якія выраблялі розныя тавары і прадавалі іх. Глыбока пад зямлёй захаваліся да нашага часу нават вырабы з дрэва – грабяні, бочкі, вёдры. На Менскім замчышчы была знойдзеная і загадкавая касцяная пласцінка. На ёй надрапаная выява чалавека. Гісторыкі яшчэ не высветлілі, для чаго гэта пласцінка была зроблена, таму чакаем цікавых прапаноў ад цябе.

А самая каштоўная знаходка Старога места – залаты бранзалет 12 стагоддзя. Паглядзі, які ён прыгожы і вытанчаны і як добра захаваўся да нашых дзён. Хутчэй за ўсё яго зрабілі майстры са Скандынавіі, а потым вікінгі падаравалі бранзалет мінскай княжне.

Вось якія цікавосткі хавае беларуская зямля! І пабачыць іх вам дапаможа той самы крот. Калі падчас экскурсіі да замкаў і палацаў вы ўбачыце кратовіны – вывернутую кратом зямлю – акуратна разгарніце іх. Магчыма, там знойдуцца кавалкі гаршкоў ці ваз або іншыя цікавыя рэчы з мінулых эпох. Цікавых вам знаходак, дарагія сябры!

**Заданне: Паспрабуй прачытаць і потым запішы на радкі словы, якія пераблыталіся і скруціліся ў спіраль. Усе яны – знаходкі Кроціка з Мінскага замчышча!**

**Падказка:** кожнае слова мае свой колер!



---------------------------------

---------------------------------

---------------------------------

---------------------------------

---------------------------------

---------------------------------

Заданне: Давай праверым, наколькі ўважліва ты чытаў часопіс! Прапануем табе сярод гэтых літар знайсці як мага болей словаў, якія ты сустракаў у гэтым нумары. Памятай, што словы павінны быць звязаны з тэмай часопіса. Поспехаў!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| З | А | Д | А | Н | К | Т | Э | Л | Ь |
| К | М | А | К | Ж | А | С | А | В | А |
| Р | Э | В | А | О | М | У | Р | А | Н |
| Н | А | В | А | Н | Г | Е | Р | С | К |
| П | А | Б | Г | Р | А | Д | А | К | А |
| Б | Л | А | Й | Н | А | К | У | Л | Ь |
| А | А | Ц | Н | І | Ц | Ы | П | І | Р |
| С | Т | Ы | Ё | М | А | Ш | Л | У | К |

## Слоўнічак



**Аблога** – напад ворагаў на замак.

**Ловы** – паляванне.

**Габелен** – тканая карціна.

**Куфар** – драўляная скрыня для кніг і вопраткі.



## Адказы:

**С. 10**
Слова «Рэзідэнцыя»

**С. 14 Рэбусы**:
Вежа, муры, замак, башты, данжон, байніца, бастыён

**С. 27** Грэбень, ключ, бранзалет, кафля, фібула, шпора

**С. 28 Словы**:



**Адукацыйна-забаўляльны гістарычны часопіс для дзяцей “Музейныя вандроўкі”**

Галоўны рэдактар: **Дар’я Астрагаловая**
Рэдакцыйная калегія: **Кацярына Далінская, Сяргей Ганчарэнка**
Карэктура: **Паўліна Скурко**
Мастак/дызайнер, вёрстка: **Кацярына Першына**
Аўтары тэкстаў: **Дар’я Астрагаловая** (с. 4-5, 8-9, 13-14, 15, 21, 26-27)
**Ганна Васільчыкава** (с.12-13, 28)
**Вольга Галаско** (с.14, 22-23)
**Сяргей Ганчарэнка** (с.6-7, 10-11)
**Паўліна Скурко** (с.16-20, 22-23, 24-25)





## Конкурс

Васілёк і Цікаўка любяць удзельнічаць у розных конкурсах. Спадзяемся, што гэта падабаецца і вам!

Мы ведаем, што нашыя чытачы самыя цікаўныя, вясёлыя і творчыя! А гэта значыць, што вы з лёгкасцю выканаеце наступнае заданне. Паколькі гэты нумар часопіса быў прысвечаны абарончым збудаванням на Беларусі, прапануем вам паўдзельнічаць у конкурсе на лепшы замак або палац.

Для гэтага цягам двух месяцаў дасылай на нашу пошту малюнкі, фотаздымкі, а таксама макеты зробленых табою крэпасцяў, палацаў, замкаў. Аўтары лепшых работ будуць запрошаны ў музей і атрымаюць прыемныя падарункі!

**muz.vandrouki@gmail.com**



velcom

## velcom – «Сацыяльнаадказны брэнд» і «Мецэнат культуры»

26 студзеня кампанія velcom атрымала ганаровае званне «Мецэнат культуры Беларусі-2015». Узнагароду ўстанавіла Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, якое адзначыла вялікую важнасць сацыяльных культурных праектаў кампаніі. У 2015 годзе velcom рэалізаваў шэраг праектаў, сярод якіх «Чытаем па-беларуску з velcom» и «Класіка з velcom. Новае музычнае пакаленне», а таксама выступіў генеральным партнерам свята казкі «Казачны джэм» і тэлевізійнага праекта «1000 музеяў Беларусі».

А 29 студзеня на прафесійным конкурсе «Брэнд года 2015» velcom атрымаў Гран-пры ў намінацы «Сацыяльна адказны брэнд» і Залаты медаль у катэгорыі «Актыўная сацыяльная пазіцыя». Сярод сацыяльна важных таксама вылучаюцца праекты #velcombegom і распрацоўка праграмнага прадукту «Камунікатар для дзяцей і дарослых з аўтызмам» разам з арганізацыяй «Дзеці. Аўтызм. Бацькі». Цікава, што праект «Музей дзецям з velcom» быў адзначаны ў абодвух прэміях.

## Падтрымка тэлевіктарыны «Размаўляем па-беларуску»

Кампанія velcom стала генеральным партнёрам тэлевіктарыны «Размаўляем па-беларуску». Тэлепраграма выходзіць у эфір «Беларусь 3» штотыдзень па суботах і панядзелках. Удзельнікі тэлевіктарыны адказваюць на цікавыя пытанні на веданне беларускай мовы, літаратуры, этнаграфіі, мастацтва. Пры гэтым яны праяўляюць не толькі свае веды, але і вытрымку, хуткую рэакцыю, рашучасць, уменне будаваць камандную стратэгію.

26 снежня выйшаў у эфір святочны выпуск тэлепраграмы, у якім узялі ўдзел супрацоўнікі кампаніі velcom з Мінска, Гомеля, Гродна і Светлагорска. Яны знайшлі правільныя адказы амаль на ўсе пытанні віктарыны.

## Фестываль мабільнага кіно velcom Smartfilm

16 лютага ў Мінску былі падведзены вынікі пятага фестывалю мабільнага кіно velcom Smartfilm. Асноўнай тэмай конкурса ў гэтым годзе сталі буктрэйлеры – удзельнікі фестывалю павінны былі зняць кароткія ролікі, якія прэзентуюць кнігу. Галоўная ўмова – для гэтага дазваляецца карыстацца толькі смартфонам.

У спаборніцтве за ўзнагароды фестывалю ўдзельнічалі 93 буктрэйлера на літаратурныя творы самых розных аўтараў, жанраў і эпох. Сярод іх буктрэйлеры як да знакамітых кніг («Злачынства і пакаранне», «Муму», «Вій»), так і да работ аўтараў-пачаткоўцаў. Таксама сярод канкурсантаў былі прадстаўлены буктрэйлеры да айчыннай і замежнай дзіцячай літаратуры («Маленькі прынц», «Сем камянёў», «Заклятыя скарбы»). Пераможцаў вызначыла прафесійнае журы, у склад якога ўвайшлі вядомыя беларускія рэжысёры і кінакрытыкі.